Жыве Беларусь!



# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№201 (714) 14 кастрычніка 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.

## ФАКС

### Мы все же идем к рынку, господа!

**Накануне совещания консультативной группы Всемирного банка по Беларуси, намеченного на 27 октября в Париже, первый заместитель Председателя Совета Министров Беларуси Михаил Мясникович встретился с представителями дипломатических ведомств США, Франции, Италии и ФРГ.**

На встрече было отмечено, что при содействии международного сообщества правительством республики принят ряд мер, направленных на более быстрый переход к рыночной экономике.

Михаил Мясникович затронул также вопросы взаимодействия Беларуси с международными финансово-кредитными организациями и рассказал о перспективах экономического сотрудничества в рамках СНГ.

### Разбор полетов начинается?

**Совет Объединенной демократической партии Беларуси обратился к Верховному Совету республики с требованием "приостановить деятельность прокоммунистических организаций — участниц Конгресса народа Беларуси.**

Также предлагается создать парламентскую комиссию, которая должна провести расследование деятельности "фашистско-коммунистических организаций в Беларуси и их роли в подготовке мятежа в Москве".

**Антон КАЛИНИН.**

### Это дело начинает молодежь!

**Вчера делегация Комитета по делам молодежи при Совете Министров Республики Беларусь выехала в Германию.**

15 октября в Бонне запланировано подписание соглашения о молодежном сотрудничестве между комитетом и федеральным министерством по работе с молодежью и женщинами.

**Анатолий ВИТКОВСКИЙ.**

### В праздник и разлить не доведется. Чугун

**14 октября ПО "Минский тракторный завод" отмечает юбилей — сорок лет назад с конвейера сошел первый колесный трактор "Беларусь".**

Впрочем, праздник скорее всего пройдет без помпы: до конца недели многие заводчане на рабочих местах просто не появятся — нет чугуна.

**Сергей РАСОЛЬКО.**

### Торги пока неуместны?

**На предстоящей сессии Могилевского горсовета будет, по-видимому, рассматриваться вопрос о приостановлении в городе приватизации объектов коммунальной собственности.**

Вето предлагается наложить до тех пор, пока всем жителям не будут выданы именные приватизационные чеки.

С таким предложением выступил "Демклуб" Могилевского горсовета.

**Николай АНДРЕЕВ.**

### Не пишите письма на деревню дедушке

**Из чаусских деревень Захраполье и Зарестье выехали последние жители.**

Одни из них поселились в новом поселке, построенном местным колхозом "Искра", другие обосновались в райцентре.

**Николай ЗАПОЛЬСКИЙ.**



### Вкратце

**Как сообщили в Министерстве иностранных дел Беларуси, в двадцатых числах октября планируется визит в республику государственного секретаря США Уоррена Кристофера.**

❑

**Сегодня в Минск прибывает первый заместитель министра иностранных дел Китая Тянь Цзэнпзи.**

В программе его визита — встреча с Председателем Верховного Совета Беларуси Станиславом Шушкевичем, главой правительства Вячеславом Кебичем.

❑

**Чрезвычайный и Полномочный Посол Республики Беларусь на Украине Виталий Курашик вручил верительные грамоты президенту Украины Леониду Кравчуку.**

После вручения верительных грамот и обмена речами между Леонидом Кравчуком и Виталием Курашиком состоялась беседа.

❑

**Постановлением Совета Министров республики создан Белорусский государственный концерн народных художественных промыслов.**

В состав концерна вошли 13 предприятий, находящихся в государственной собственности.

❑

**16 октября в Минском Доме литератора по инициативе БНФ пройдет конференция некоммунистических и антиимперских организаций Беларуси.**

В ней примут участие более 35 партий и организаций, которые рассмотрят вопросы о необходимости проведения новых выборов в Верховный Совет весной 1994 года, об отставке Совета Министров, создании коалиционного правительства республики.

❑

**Белорусский институт инженеров железнодорожного транспорта, который находится в Гомеле, переименован в Белорусский государственный университет транспорта.**

Постановление на сей счет принял Совет Министров республики.

❑

**Эдуард Шеварднадзе охарактеризовал положение в Западной Грузии как "более чем тяжелое".**

Он заявил, что правительственные войска, выводившиеся из Абхазии через Зугдиди, были почти полностью разоружены и 80 процентов их военной техники перешло к сторонникам экс-президента Звиада Гамсахурдиа.

❑

**Из 60 тысяч таджикских беженцев, находившихся с осени 1992 года в Афганистане, репатриировано 24 тысячи человек.**

Об этом сообщил начальник департамента информации МИД Таджикистана Зафар Саидов.

### Как Комиссаров сдал Ленина

**Так и не удалось предстать перед народом изваянию Ленина, выполненному еще до августовских событий 1991 года для города Сенно известным скульптором Заиром Азгуром.**

Районное управление коммунального хозяйства под руководством Владимира Комиссарова втихаря уступило статую фермеру из Минской области за 100 тысяч рублей, хотя только пошедший на ее изготовление цветной металл стоит гораздо дороже.

Районная прокуратура обратилась в Хозяйственный суд республики с иском о признании сделки недействительной.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**



Рисунок Олега ПОПОВА.

### Янаев требует журналистов в суд. Для интервью

**Сегодня исполнилось полгода как начались судебные заседания военной коллегии Верховного суда Российской Федерации по делу о ГКЧП.**

Этому "процессу века", наверное, уготована судьба попасть в Книгу рекордов Гиннесса по количеству различных ходатайств и заявлений.

Вчера суд отложил очередное заседание из-за неявки одного из адвокатов без уважительной причины. И все же гэкачеписты остались верны себе: с многословным заявлением выступил неудавшийся президент Г.Янаев и обвинил судей в том, что в зале почти нет представителей столичной и зарубежной прессы.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### Жулик на жулике сидит?..

**Республиканская социологическая служба "Грамадская думка" изучила ответы многочисленных респондентов в Витебской области на вопрос, кому принадлежит здесь власть.**

Самая большая группа людей — почти 33 процента — придерживается мнения, что всем заправляют коррумпированные круги; около 24 процентов считают, что власть у местных Советов, а 17 процентов — что у руля по-прежнему стоят партаппаратчики. Почти все опрошенные не признают линию своих руководителей прогрессивной.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

### Не обвиняйте КГБ в шпиономании!

**Опубликованное "Известиями" сообщение агентства "Интерфакс" о том, что КГБ Беларуси имеет претензии к деятельности дипломатических миссий в республике, похоже, является "уткой".**

Подразделение общественных связей Комитета госбезопасности, комментируя заметку в "Известиях" за 9 октября, выражает сожаление, что журналист прибег к сомнительному "источнику", и сообщает также, что ссылка на отсутствие законодательной базы для "приостановки активности" некоторых иностранцев не соответствует действительности. И нынешние законы в случае необходимости позволяют вполне эффективно решать вопросы обеспечения безопасности государства , говорится в заявлении КГБ.

**Константин УЛЬЯНОВ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.**

*Сустрэчы*

## Кіраўнік беларускага парламента — у штаб-кватэры СНД

**12 кастрычніка ў Мінску адбылася рабочая сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча з кіраўніцтвам Выканаўчага сакратарыята СНД і пастаяннымі паўнамоцнымі прадстаўнікамі дзяржаў Садружнасці.**

Паводле слоў выканаўчага сакратара СНД Івана Каратчэні, на ёй былі абмеркаваны пытанні, звязаныя "з выхадам Выканаўчага сакратарыята на зусім новы этап дзейнасці ў вырашэнні праблем як Садружнасці ў цэлым, так і кожнай дзяржавы ў СНД паасобку". Другі блок пытанняў закранаў комплекс сацыяльна-бытавых праблем.

Як заявіў на прэс-канферэнцыі Станіслаў Шушкевіч, ён застаўся задаволены тым, што знойдзена ўзаемаразуменне ў поглядах на ролю СНД, якая не павінна зводзіцца да вырашэння неадкладных эканамічных праблем. Ён таксама падкрэсліў, што лічыць неабходным узмацненне ролі Садружнасці ў плане каардынацыі знешнепалітычных намаганняў.

Удзельнікі сустрэчы прыйшлі да думкі аб неабходнасці больш актыўнага ўдзелу ўрада Беларусі ў вырашэнні шэрагу пытанняў жыццядзейнасці першага статутнага органа Садружнасці, а таксама выказаліся за падпісанне пагаднення паміж урадам Рэспублікі Беларусь і Выканаўчым сакратарыятам СНД аб статусе сакратарыята.

Па выніках сустрэчы падпісаны пратакол.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, Белінфарм.**

*Мы вяртаемся ў Еўропу*

## Альбіён не такі ўжо і туманны...

**У Лондане адбылася сустрэча міністра замежных спраў Вялікабрытаніі Дугласа Хэрда і міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі, які знаходзіцца тут з візітам.**

Былі закрануты праблемы працэсу раззбраення, у прыватнасці далучэнне Беларускі да Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі, пытанні, звязаныя з дзейнасцю ААН. Значная ўвага была ўдзелена ўзаемаадносінам Беларусі з Еўрапейскім супольніцтвам, заключэнню пагаднення аб партнёрстве.

Бакі абмеркавалі шэраг міжнародных праблем, у тым ліку становішча ў Расіі. П.Краўчанка заявіў кіраўніку брытанскага знешнепалітычнага ведамства, што Беларусь цалкам і поўнасцю падтрымлівае расійскага прэзідэнта Барыса Ельцына і разглядае адносіны з Расіяй як вельмі важныя.

Міністры замежных спраў падпісалі сумесную дэкларацыю аб далейшым развіцці палітычных, эканамічных і культурных сувязей паміж дзвюма краінамі. Вялікабрытанія аб'явіла, што яе часовы паверанны ў справах у Беларусі атрымлівае цяпер статус паўнамоцнага пасла.

**Уладзімір ВАРАНКОЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**

*Што ва ўрадзе?*

### Сацыяльная абарона

**Пастановай Савета Міністраў нумар 648 зацверджана рэспубліканская комплексная праграма па праблемах пажылых людзей.**

Праграма прадугледжвае карэннае пераўтварэнне сацыяльнага абслугоўвання пажылых людзей, арганізацыю герыятрычнай службы ў Беларусі, будаўніцтва аб'ектаў лячэбна-прафілактычнага і сацыяльна-бытавога прызначэння, стварэнне рабочых месцаў для пажылых і іх працаўладкаванне і шэраг іншых мер. Агульны кошт праграмы ацэньваецца амаль у 15 мільярдаў рублёў.

### Аб статусе плошчы Незалежнасці

**Прынята ўрадавая пастанова "Аб статусе плошчы Незалежнасці ў горадзе Мінску".**

Улічваючы, што гэта плошча і размешчаныя вакол яе будынкі органаў дзяржаўнай улады і кіравання, устаноў і навучальных устаноў з'ўляюцца гісторыка-архітэктурным комплексам, а таксама з мэтай стварэння нармальных умоў для дзейнасці гэтых органаў, прадухілення магчымых правакацыйных актаў і недапушчэння парушэнняў грамадскага парадку на плошчы, Саўмін даручыў Мінгарвыканкаму з удзелам зацікаўленых міністэрстваў і ведамстваў удакладніць яе межы і статус. Маецца на ўвазе, што на плошчы Незалежнасці не павінны праводзіцца масавыя мерапрыемствы (дэманстрацыі, мітынгі, шэсці, пікетаванні), не звязаныя са святкаваннем устаноўленых заканадаўчымі актамі святочных дзён. Міністэрству ўнутраных спраў прадпісана забяспечыць грамадскі парадак на ўказанай плошчы, бяспеку дэпутатаў і службовых асоб пры правядзенні сесій Вярхоўнага Савета.

У сувязі з маючай адбыцца рэканструкцыяй плошчы Незалежнасці і яе часовым закрыццём для стаянкі транспартных сродкаў Мінгарвыканкаму і МУС дадзена даручэнне вырашыць пытанне аб арганізацыі стаянкі і праезду гэтых сродкаў па-за тэрыторыяй плошчы.

Гэта пастанова дзейнічае да прыняцця заканадаўчага акта аб статусе горада Мінска.

### Падтрымка культуры

**Прынята ўрадавая пастанова "Аб дзяржаўнай падтрымцы нацыянальнай кінематаграфіі", якая прадугледжвае бюджэтнае фінансаванне шэрагу адпаведных праграм.**

### Жыллёвае будаўніцтва

**Савет Міністраў і Нацыянальны банк рэспублікі сваёй сумеснай пастановай адобрылі прапанову Ашчаднага банка аб дадатковым накіраванні з яго рэсурсаў у 1993 годзе 25 мільярдаў рублёў на крэдытаванне індывідуальнага і кааператыўнага жыллёвага будаўніцтва.**

Ашчаднаму банку рэкамендавана накіраваць гэту суму ў першую чаргу на завяршэнне ўжо ўзводзімых аб'ектаў.

**Служба інфармацыі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — Белінфарм.**

*Адкрыты ліст з рэдакцыі*

## Калегі! Будзем канкурыраваць, але не варагаваць!

**Журналісцкая прафесія абавязвае да многага. Нездарма прэсу лічаць чацвёртай уладай. Толькі майстэрства і адказнасць журналіста з'яўляюцца гарантыяй своечасовага і дакладнага інфармавання грамадзян Беларусі.**

**Перафразуючы вядомы афарызм, можна сказаць: "Мы, журналісты, — адна сям'я". Не толькі таму, што ў абсалютнай большасці вучыліся ў адных выкладчыкаў у Белдзяржуніверсітэце, працавалі і працягваем працаваць па суседству і, як правіла, добра знаёмыя адзін з адным асабіста. Нас аб'ядноўвае і іншае. Яшчэ зусім нядаўна мы ўсе разам, ці працуючы ў шматтыражцы, ці прадстаўляючы флагман рэспубліканскага друку, знаходзіліся пад пільным наглядам нядрэмлючых партыйных "куратараў". Давайце пакаемся: у тым, што народ увесь час падманвалі, што гераізаваліся тупыя чынушы, кар'ерысты і дэмагогі, што была ўтоена жахлівая праўда пра наша агульнае гора — Чарнобыль, ёсць і наша, журналісцкая віна.**

**Час, грамадскія перамены знялі забарону маўчання, вярнулі нашай прафесіі яе сапраўднае прызначэнне. Знікла цэнзура, з'явіліся новыя незалежныя органы друку — кожны з нас атрымаў магчымасць сумленна і непрадузята, не баючыся "аргвывадаў", публічна выкладаць свае думкі. Мы адчулі, што такое сапраўдная свабода друку, наколькі важная яна для асноў існавання дэмакратычнай супольнасці. Але, з другога боку, сёння стала яскрава бачна, што гэтую, скажам шчыра, не заваяваную, а падараваную свабоду слова хто-кольвечы разменьвае на чачавічную поліўку дробных даброт аў, на халопскае слуганне ўладу маючым.**

**Мы выдатна разумеем, што абсалютнай свабоды не бывае, і сродкі масавай інфармацыі ў той ці іншай ступені адлюстроўваюць палітычныя пазіцыі тых, хто з'яўляецца заснавальнікам таго ці іншага выдання. Але нельга ж апускацца да ўзроўню лакейства! Нельга ж губляць твар і звыкла падаць на калені перад сваім "гаспадаром"!**

**Жадаючых купіць нас, журналістаў, заўжды было багата. Чаму ж сёння, калі дыхаць стала вальней, многія так ахвотна прадаюцца, забыўшы пра сумны вопыт нядаўняга паслухмянага слугавання "правадырам"? Так, у грамадстве існуе палярызацыя палітычных сіл. Але ж хіба задача журналістаў у тым, каб падыгрываць той ці іншай палітычнай групе, забываючы пра галоўнае — аб'ектыўнае інфармаванне чытачоў, гледачоў, слухачоў? Папяровы голад, манапалізацыя сферы паліграфіі і распаўсюджвання друку — безумоўна, магутны інструмент у руках тых, хто прывык трымаць прэсу на кароткім ланцужку і прымушае нас скакаць пад сваю дудку. Але трэба спыніцца! Таму што ўгодлівасць, прафесійны цынізм, махровая кан'юнктуршчына — гэта шлях у тупік.**

**Нейкі час таму рэдкалегія "Народнай газеты" зазначыла ў сваёй заяве, што не лічыць патрэбным адказваць на кожны друкаваны выпад у адрас нашага выдання. Мяркуем, што прынцып "вока за вока, зуб за зуб" ганебны для цывілізаваных людзей, а камунальная сварка на журналісцкай кухні наўрад ці дадае камусьці з нас чытацкіх сімпатый. І гэтая публікацыя прадыктавана не жаданнем даць "адлуп" апанентам, а глыбокай трывогай за сённяшні маральны стан беларускай журналістыкі.**

**Адразу падкрэслім, што мы пакідаем па-за межамі нашай гаворкі такія выданні, як "Мы и время" ці "Политика. Позиция. Прогноз", дзе сапраўдная журналістыка, як і элементарная маральнасць, што называецца, і не начавалі. Але ж сёння страту арыенціраў прафесійнай этыкі раз-пораз дэманструюць і вядомыя, масавыя выданні са сталай, сур'ёзнай рэпутацыяй, дзе, як мы ведаем, працуе шмат вопытных, таленавітых прафесіяналаў. Хочацца спытаць калег: дзе ж ваш гонар, чаму вы маўкліва пагаджаецеся з тым, што хто-кольвечы выкарыстоўвае старонкі вашых паважаных выданняў для звядзення дробязных рахункаў, для брудных інтрыг?**

**Нам падаецца, напрыклад, што для цывілізаванай, прыстойнай журналістыкі непрымальны той пірацкі прыём, які выкарыстала нядаўна газета "Рэспубліка": перадрукаваўшы (без асаблівай, трэба сказаць, павагі да нормаў аўтарскага права) шарж з "Народнай газеты", там разгарнулі цэлую здзеклівую кампанію, скіраваную на дыскрэдытацыю вышэйшай службовай асобы нашай дзяржавы.**

**А ці варта браць на сябе функцыі пракурора, як гэта ўжо зрабілі асобныя беларускія выданні, узяўшыся каменціраваць намер высокапастаўленага супрацоўніка Саўміна Генадзя Данілава абараняць у судовым парадку свой гонар і годнасць, закранутыя, на яго думку, у адной з публікацый галоўным рэдактарам "Народнай газеты"? Нагадаем: ёсць юрыдычныя нормы, якія забараняюць прэсе апярэджваць судовыя рашэнні ці нейкім чынам імкнуцца ўплываць на іх. Нарэшце, ёсць і проста нормы этычныя... Дык ці варта сёння, да суда, сцвярджаць, што "Народная газета" очередной раз села в лужу", што "государственный служащий высокого ранга прищемил хвост газетной "утке"? Не трэба наперад бацькі соваццa ў пекла — узгадайце, калегі, мудрасць нашых продкаў. Мы хочам спытаць сёння, напрыклад, аглядальніка "Белорусской нивы" Ігара Акшэўскага, ці разумее ён, што яго напоўненыя злосцю выпады супраць "Народнай газеты" — занадта вялікая плата за фамільярнае паляпванне па плячы з боку тых, хто заказвае нецярпімасць і агрэсію? Мы не разумеем пазіцыі калектыву "Знамени юности", газеты са слаўнай дэмакратычнай біяграфіяй і выдатнымі традыцыямі незалежнасці і справядлівасці, старонкі якой акупіравалі сёння аматары "прагінацца" і дагаджаць высокаму начальству, па ягонай указцы абрушваць на няўгодных дубіну знішчальнай крытыкі.**

**Калегі, мы, безумоўна, пакідаем за кожным з нас права на тую або іншую палітычную пазіцыю, на сімпатыі альбо антыпатыі, але мы не павінны апускацца ніжэй пэўнага маральнага ўзроўню. Нельга дапусціць, каб чытачы адхінуліся ад нас як ад лісліўцаў і лгуноў, гатовых за падачкі кінуць пад ногі сённяшнім уладу маючым сваё імя, гонар і годнасць.**

**Так, мы павінны канкурыраваць адзін з адным, змагацца за падпісчыкаў, за тыраж. Але гэта павінна быць сумленная, прафесійная барацьба, у якой няма месца лжэсведчанню, ачарненню, навешванню брудных ярлыкоў на апанентаў і ўсяму таму, што дасталося нам у спадчыну ад так званага партыйнага друку. Давайце ўзгадаем, што "куратары" і цэнзары прыходзяць і адыходзяць, а мы, журналісты, застаёмся. Са сваім імем, якое так лёгка размяняць на дробязі і так цяжка захаваць у чысціні.**

***Журналісты "Народнай газеты".***

*Грамадзяне, паслухайце мяне!*

## Чым суверэнітэт адрозніваецца ад сюзерэнітэту?..

**Валеры ГРЫШАНОВІЧ, паэт, публіцыст, галоўны рэдактар газеты "Грамада"**

**1.**.

Рухнула вавілонска-крамлёўская вежа. Развалілася камуністычнае царства. Наступае аб'ектыўны канец светлай і адначасна такой мілай нашаму сэрцу — пры аўтаномным існаванні розуму! — "эры". Хрыплае конскае ржанне, што няслося наперадзе конармії, якая адкочвалася ад Варшавы, змянілася душараздзіральным іржаннем згвалтаванай камандармамі савэканомікі жарабіцы.

Вось калі ўсе мы сталі сведкамі не масавага рэвю па сцэнарыю Лейбы Браништэйна і Сасо Джугашвілі з міражнай сцэнай вадапою "чырвоных коней" на Вісле, а — і сапраўднай Аптымістычнай трагедыі.

**Трагедыі** — таму, што расійская рэвалюцыя па-якабінску зжэрла фактычна ўсіх сваіх "бацькоў і дзяцей".

**Аптымістычнай** — таму, што "пачынаецца новая эпоха — эпоха світанку!", як з надзеяй пісаў у мінулым стагоддзі ў газеце "Сцяг Свабоды" Кастусь Каліноўскі.

Трэба пры жыцці ставіць помнікі з гіпсу пакалечаным апантаным крытыкам (штатным і пазаштатным) Ельцына, Краўчука і "примкнувшего" да іх Шушкевіча, абвінавачаных у "развале Саюза".

**Па-першае,** што гэта быў за "саюз", які распаўся на тысяча першую ноч пасля пралюбадзеяння сатаны, д'ябла і чорта ад ляскату металічных гусеніц на вуліцах былой мардоўска-бальшавіцкай сталіцы?

**Па-другое,** не камета Галея, а ўспышка нацыянальнай самасвядомасці пасля распаду імперыі асвяціла эпоху Вялікага тэрору і сталінскай апрычніны. Бяссілле і страх перад судным днём загнаў у "Матроскую цішыню" герояў аперэта-марыянетачнага путчу 19 жніўня 1991 года. Той, хто канчаткова не з'ехаў з глузду, цудоўна ўсведамляў лагічны канец і бачыў перад сабой край прорвы. Адзінае, што ўдзельнікі балета "Лебядзінае возера" не жадаюць усвядоміць, — гэта тое, што шлях у "светлое будущее", які вымашчаны чалавечымі чэрапамі, не толькі ўтапічны, але і сатанінскі. Бо — "без массовых репрессий и расстрелов нам коммунизма не построить". Кропка. Гэта аўтаэпітафія Бухарына.

**Па-трэцяе,** той, хто стаіць сёння на каленях і з апошніх сіл дуе ў славутае месца згвалтаванай камандармамі саўэканомікі жарабіцы, цудоўна ведае, хто і калі ёй вынес канчатковы прысуд. А вынесены ён быў роўна за год да аперэтамарыянетачнага путчу пастановай Савета Міністраў СССР ад 16 жніўня 1990 года "О мерах по демонополизации народного хозяйства". У гэтай пастанове чорным па белым запісана, што цэнтральныя эканамічныя органы, міністэрствы і ведамствы СССР вызваляюцца ад "функций по непосредственному руководству выполнением текущих хозяйственных задач и оперативному управлению предприятиями и организациями". Надалей ім прадпісвалася заняцца дэцэнтралізаваным пераразмеркаваннем "материальных и финансовых ресурсов", апрача гэтага, "утвержденные размеры должностных окладов" рэкамендавалася разглядаць "в качестве минимальных"(?!).

— Дык хто на самай справе падвёў міну замаруджанага дзеяння пад "Союз нерушимый" і цэнтралізаваную наменклатурную эканоміку?!

— Гарбачоў, Коль, Буш, белавежскія "зубры"?..

Чытайце ленінскую "Праўду", спадары дэпутаты беларускага "парляманта"!

Менавіта вышэйадзначаны бальшавіцкі па духу "маніфест", так трэба разумець прэзідэнта расійскага Саюза прадпрымальнікаў і лідэра Грамадзянскага саюза ўсеведнага Аркадзя Вольскага, паслужыў прычынай эканамічнага "бліцкрыга". Менавіта гэтая рэўкомаўская па зместу пастанова каменя на камені не пакідала ў падмурку саўэканомікі, у падмурку, узведзеным на касцях з бетону, замешанага на чалавечай крыві.

І пры чым тут Віскулі? Пры чым белавежскія зубры, пры чым сталінскі трактарыст і нобелеўскі лаўрэат Гарбачоў?..

Тады, у жніўні дзевяноста першага, стала зразумела, што перабудова падгніўшага гаспадарчага хлява — дохлая справа, а падпіраць хлеў танкамі — вар'яцтва. Сярод белага дня, у белай гарачцы двойчы "рабаваць нарабаванае" (гэты грабеж народ трапна ахрысціў "прыхватызацыяй"), прашываць чорную справу белымі ніткамі і расказваць пры гэтым казку пра белага бычка — двайное злачынства, за якое месца як мінімум на Прынцаканарскіх астравах, якое некалі асвяціў сваім знаходжаннем ідэолаг і практык казарменнага сацыялізму Лейба Браншт эйн!..

(Заканчэнне на 2-й стар.)

# Чым суверэнітэт адрозніваецца ад сюзерэнітэту?..

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

2.

Сёння зразумела, што перамога, якую два гады таму шумна адсвяткавалі "дэмаросы", аказалася піравай. Перапуджаны яе гукамі, наш "белпарлямант" прагаласаваў за прыняцце сімволікі, супраць якой змагаўся да апошняй кулі. Гэтым і абмежаваліся. А носьбітам ідэі нацыянальнай незалежнасці і беларускай дзяржаўнасці стаў хіба што вольны вецер у гуляй-полі. На паверку тубыльцу і наздратаму быку металічнае кольца аказалася мілей і даражэй за сапраўдную, а не дэклараваную дзяржаўную незалежнасць.

Хто сапраўды заслугоўвае быць губернатарам Бермудскіх астравоў ці на горшы выпадак Магілёўскай губерні, дык гэта той, хто адкрые сусветны закон залежнасці паху бензіну ад паху Свабоды.

Жарты жартачкамі, але пакуль наша свабодная газета "Свабода" на першай старонцы вядзе прынцыповую дыскусію пра мяккі і цвёрды знакі з творцамі Закона аб мовах, гаспадарчы экспедыцыйны корпус пабатальённа ўвайшоў у залу пасяджэнняў "белпарляманта". Без рэпетыцыі кандыдат у народныя трыбуны агучыў на ўсю рэспубліку ліст дубровенскага грамацея, напісаны ў XVI стагоддзі пад дыктоўку беглых халопаў маскоўскага цара-бацюхны, у якім тыя прасіліся назад, на пастаялы двор, бо раскарчоўваць буралом і сеяць ніву яны адвыклі, бо адзінае, што ўмелі халопы, — халопнічаць. Не тое, што старшыня дубрэўкома — з націскам на націскных складах чытаць па напісанаму. А што тут дзіўнага, калі ў падпарадкаваных яму памяшканнях гандлёва-гаспадарчых складоў у поўным саставе вісяць сталінска-брэжнеўскае палітбюро, партрэты людзей асобага складу?!

А вы што думалі, спадары антыраялісты, што загадчыкі складоў адразу ж кінуліся тыя партрэты здымаць і вывешваць малавядомыя ім — Скарыны, Буднага, Касцюшкі, Каліноўскага ці нелюбімых Ельцына, Краўчука, Шушкевіча?! Пачалі нанова перачытваць Энгельса, Маркса ці таго ж Сталіна? Ды яны і па першаму разу чыталі ў святле перадавых артыкулаў "Праўды". А каб раз зняпацку прачыталі, то зразумелі б, што да той самай скарынінскай эпохі нам яшчэ расці і тупаць гадоў сто і болей без старасці. "Тады, — паводле Энгельса, — не было амаль ніводнага вялікага чалавека, які... не гаварыў бы на чатырох альбо пяці мовах, не працаваў бы бліскуча ў некалькіх галінах творчасці". Тая эпоха "спарадзіла тытанаў па сіле думкі, страснасці і характару, па шматграннасці і вучонасці". І тады, па сведчанню даследчыкаў беларускага грамадства, як ніколі пазней, Беларусь, задоўга да бальшавіцкіх пятроўскіх рэформ, гатова была да сапраўднай рэфармацыі, гатова была заняць дастойнае месца сярод высокаразвітых еўрапейскіх дзяржаў. Адно тое, што дзесяткі беларускіх гарадоў мелі на той час магдэбургскае права, — пераканаўчае сведчанне гэтаму.

"Ну і бог з ёй, з вашай Марксавай эпохай "Адраджэння і Рэфармацыі", — трымае правую руку ў кішэні былы сакратар губкамсамола. У мяне вунь "стальныя коні" на прыколе, рамізнікі і вазакі, прабачце, аўтамабілеаматары ўзбунтаваліся, а што там здарылася пад Оршай — разбярэцца Саўмін. І скажу вам па шчырасці, мая любімая кніжка "Міколка-паравоз", бо пара-воз ведае, у які бок яму рухацца ў адрозненне ад вас, рэфар-мат-а-раў, схільных як да левага, так і да правага ўхілу...".

Вось і ўвесь алегарычны сказ, спрошчаны, але і не перабольшаны.

Пра якіх "мысліцеляў-гуманістаў", пра якую "дабрачынную філасофію", пра якія "сем вольных навук" можа ісці гаворка сёння, калі мы толькі ўчора "злезлі" з грамафоннай іголкі "а ля Інтэрнацыянал", а трэлі гучных паравозных гудкоў у спалучэнні з сектанцкім песнапеннем "весьмирнасильямыразрушим" паралізавалі волю да жыцця і забілі слых.

Будзем аб'ектыўнымі: і сумна вядомая перабудова даўно атручанага грамадства, і неанэп, якія зваліліся на нашы галовы зверху, — не падарунак лёсу, а к р ы ж, які ўсім наканавана пранесці як расплату за бяздумны "революционный энтузиазм масс". Кранштацкія матросы, ап'янёныя ў семнаццатым годзе "паветрам рэвалюцыі", праз пяць гадоў працверазелі ў час піку ваеннага камунізму і 3 сакавіка 1921 года з лінкора "Петрапаўлаўск" тэлеграфавалі суайчыннікам: "...На сцену выползает ряд партийных генералов, уверенных в своей непогрешимости и не брезгующих никакими средствами для проведения в жизнь своей программы, как бы она ни расходилась с интересами трудовых масс. За этими генералами неизбежно тащится с-вора примыкающих прихвостней, не имеющих ничего общего не только с народом, но и с самой партией".

Але было позна.

Парадаксальнасць, а магчыма, і трагізм сённяшняй сітуацыі на Беларусі заключаецца ў тым, што езуіцтва сучасных маскоўскіх бальшавікоў, на якіх знізу ўверх глядзяць іх мінскія алавяна-сусальныя партнёры, зафрахтаваныя бабушкіны, цёткіны і патомныя сакратарскія дочкі, палічыўшыя, што наступіў іх зоркавы час, нічым не адрозніваецца ад езуіцтва іх роданачальнікаў. Апошнія ў семнаццатым годзе цудоўна выкарысталі анархію, умела сыгралі на люмпенскіх настроях мас і ўзурпір-авалі ўладу. Як і прадбачыў адзін з відных рускіх гістарычных дзеячаў мінулага стагоддзя, царская імперыя перайшла "в полное распоряжение... начальников коммунистической партии" і " красной бюрократии".

І таму ніякай свабодай ні ў Марксавым, ні нават у сталінска-ленінскім тэарэтычным разуменні гэтага паняцця сёння на Беларусі не пахне. А пахне прыемна — ад жавальнай гумы з гумдапамогі і дурна — ад апрычніны, якая з любасным поглядам збілася ў зграю і каторы раз дурыць галовы "людзям простым, паспалітым", якіх баіцца і перад якімі дрыжыць як асінавы ліст. Таму, што яна, праімперска-бальшавіцкая апрычніна, выкарыстала ўсё, да апошняга грама свінцу, да апошняй меднай трубы, пераплаўленай за мяжу, усе метады, апрача шаманскага заклінання і вар'яцкага трубадурнага клічу:

"Злучым Магілёўскую вобласць — з Кулябскай!..

Усе — на будаўніцтва п-ад-земн-ага пе-рах-оду ад магілы Льва да магілы Вяр-блюда!.."

"Нет у нас сил на Империю! — ускліснуў два гады назад аўтар "Архіпелага ГУЛАГ" у сваіх "Посильных соображениях". А як высветлілася, яны, тыя сілы, былі вычарпаны яшчэ да пачатку века. Але ж ар'ергард фракцыі Б[0], падпёрты гаспадарамі глухіх урадавых дубовых дзвярэй, рашуча нязгодны з вярмонцкім старцам, бо яму, ар'ергарду, паспрыяла выключна рэдкая магчымасць здабыць славу апошніх герояў "малой зямлі" ў перыяд расколу камуністычнага царства, славу апрычнікаў, што па Далю азначае: "житель области, вошедшей в царскую опричнину", "ратник служилой опричнины", якому па штату каравульнай службы не належыць разважаць, па якой прычыне раскалваюцца царствы, чым суверэнітэт адрозніваецца ад сюзерэнітэту.

Грызці арэхі, ад чаго, па Энгельсу, у нашых касматых продкаў пачынаўся "аналіз", — калі ласка.

## *Рэпарцёр даведаўся*

### "Бойцы вспоминают минувшие дни..."

**Адбыліся ўрачыстасці з нагоды 50-гадовага юбілею першага бою дывізіі імя Касцюшкі ля вёскі Леніна Горацкага раёна.**

Пасланне ўдзельнікам юбілею прэзідэнта Польшчы Леха Валенсы зачытаў генерал дывізіі Ян Святовец.

Пасля заканчэння мітынгу адбыўся памінальны малебен, які правялі свяшчэннаслужыцелі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Яны ж асвяцілі сімвалічны салдацкі крыж і адкрыццё дзвюх мемарыяльных дошак у музеі савецка-польскай баявой садружнасці. У заключэнне праграмы свята прайшла цырымонія ўскладання вянкоў да падножжа манументаў і вечнага агню ў памяць аб загінуўшых воінах.

### Аматарам цяпла і вады прыйдзецца раскашэльвацца

**Каэфіцыент карыснага выкарыстання паліва ў нашай рэспубліцы, як устанавілі спецыялісты, невысокі. А ці можна захаваць хоць бы частку тых калорый, якія грэюць неба?**

— Гэта прадугледжана ў адным з раздзелаў рэспубліканскай праграмы па энергазберажэнню, — адказаў на пытанне карэспандэнта Белінфарма міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Барыс Батура.

Праграмай прадугледжана ўстаноўка абсталявання па ўліку расходу газу, халоднай і гарачай вады ўжо ў 1994—1995 гадах, праўда, спачатку ў жылых пад'ездах і дамах. Выпуск яго пачаты ўжо на гомельскім заводзе "Камунальнік", іншых прадпрыемствах рэспублікі. У інтарэсах насельніцтва, лічыць Барыс Батура, усе расходы па ўстаноўцы прыбораў уліку дзяржаве мэтазгодна узяць на сябе, як гэта зроблена, напрыклад, у Літве.

**Тэрэза ХАЮЦІНА.**

### Нягледзячы на прозу жыцця

**Адразу з дзвюх прэм'ер пачаў свой новы сезон Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зьніч" пад кіраўніцтвам Галіны Дзягілевай.**

Адна з новых работ — монаспектакль "Дабравесце ад Уладзіміра". Вершаваныя вобразы Уладзіміра Караткевіча прадстаўляе Валерый Шушкевіч. А заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Ткачонак узяўся прадставіць "Дзве прыгоды Лемюэля Гулівера" Ежы Брашкевіча.

У кастрычніцкай афішы тэатра таксама знаёмыя ўжо гледачу спектаклі "Выгнанне ў рай" і "Белы сон" у выкананні Галіны Дзягілевай. Апошні пастаўлены рэжысёрам Вольгай Клебановіч па "Споведзі" Ларысы Геніюш. Тут таксама гучаць вершы У.Арлова, У.Караткевіча, В.Ластоўскага і А.Разанава. А убачыць усё гэта можна на малой сцэне тэатра імя Янкі Купалы, якую арандуе "Зьніч".

**Віктар КУКЛОЎ.**

### Здаецца, інстытуты цяпер не ў модзе

**Самая вялікая ў рэспубліцы "кузня" культурных кадраў — Мінскі інстытут культуры — перажывае ў гэтыя дні сваё другое нараджэнне.**

Згодна з пастановай Савета Міністраў гэта вышэйшая навучальная ўстанова набыла новы статус і перайменавана ў Беларускі ўніверсітэт культуры. Урачыстасці з гэтай нагоды адбудуцца 15 кастрычніка ў тэатральнай зале Цэнтральнага Дома афіцэраў.

**Белінфарм.**

## *Здарэнні*

### "Вясёлая" прагулка

**Адразу па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса прыйдзецца адказваць 24-гадоваму токару З. з гродзенскага аб'яднання "Водаканал".**

У час амаль двухгадзіннай "прагулкі" па горадзе ён учыніў адразу тры цяжкія злачынствы. Спачатку сарваў у адной з жанчын залаты ланцужок, затым спрабаваў згвалціць другую жыхарку абласнога цэнтра. Калі ж супрацоўнік міліцыі, які прыбыў на месца здарэння, вырашыў затрымаць хулігана, той аказаў злоснае супраціўленне. На які тэрмін "пацягне" такі букет злачынстваў, павінен вырашыць суд.

**Белінфарм.**





## *Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

### Аб узнагароджанні Гайдука Б.Б. і Юшкевіча А.М. Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

За шматгадовую плённую працу і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці на Мінскім дражджавым камбінаце ўзнагародзіць Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

ГАЙДУКА Браніслава Браніслававіча — галоўнага інжынера.

ЮШКЕВІЧА Анатолія Міхайлавіча — газаэлектразваршчыка 6-га разраду.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШУШКЕВІЧ.**

7 кастрычніка 1993 г.
г.Мінск.
№ 2529-XII.

## *Задумаемся!*

# Бедные наши ветераны, до чего же мы вас довели...

**Сергей ГРИЦ**

Приехали немцы в Беларусь. Туристами. Но совсем обычными. Без году полстолетия назад еще совсем молодыми храбро воевали они в составе 25-й дивизии вермахта на Днепре в районе Дубровно. Фронт здесь стоял много месяцев, и потому запомнились те места оставшимся в живых незваным пришельцам до мельчайших подробностей...



Проехали постаревшие ветераны на автобусах по местам былых боев. Войну вспомнили.

Наверное, нужна была их душам эта поездка. Может быть, как очищение, как возвращение в страшные события молодости. И нужно было это путешествие не только им — их детям и женам, которые приехали вместе с ними.

— Сегодня нам, немцам, — сказал бывший начальник штаба одного из полков дивизии Ганс-Иорг Киммих, — необходимо сотрудничать и с народом Беларуси, и с народами Украины и России. Наше поколение, конечно, не доведет это дело до конца, но мы, старые солдаты, его начнем...

Из европейских стран Германия самая активная в сотрудничестве с Беларусью. Развиваются отношения по государственной линии. Прощупывают контакты бизнесмены. Нельзя не вспомнить с чувством искренней благодарности бесконечные конвои с гуманитарной помощью, которые приходили и приходят к нам буквально со всех германских земель.

Вот и ветераны двадцать пятой дивизии подарили Дубровенскому району миноискатель, который можно назвать чудом современной техники. И подарок этот, видимо, как нельзя будет кстати: стыдно признаться, но только сейчас через пять десятилетий после окончания войны по-настоящему началось разминирование местных полей. И уже собрано около семи тысяч взрывных устройств...

Нельзя не сказать спасибо. Но... Но вглядимся в эти фотографии, сделанные в Дубровно на встрече бывших противников, ныне ветеранов второй мировой. После вкусного обеда, какового, наверное, давно не пробовали наши старики, после откровенной беседы, во время которой бывшие побежденные выяснили, что живут бывшие победители сегодня ой как не сладко, стали совать добрые гости своим хозяевам марки и даже доллары. Бедные, забытые собственным государством, за которое они проливали кровь, наши ветераны здесь же по-братски поделили — как тут сказать не обижая...— подарки и рассовали, тихо радуясь неожиданной удаче, заветные бумажки по карманам: побольше месячной пенсии будет... А для самых бедных, тех, кто даже прийти не смог или постеснялся, пущена была по кругу шляпа. Быстро набрали полную. От всей души, конечно...



Перед самым отправлением автобуса окружила немцев детвора — внуки и правнуки победителей. Не голодная, не раздетая, как во время войны, но уже привычная к "подаркам". Тянут руки к печенью, что выдается поштучно. Не со зла, наверное, немец устроил такой "цирк" — отдай пачку, еще подерутся...

А потом была встреча в Минске. Много хороших и теплых слов было сказано на ней. О памяти погибших и сотрудничестве живых, о воспитании новых поколений и борьбе за мир. И все же некоторые слова, сказанные в тот вечер, как-то не укладывались в сознании. Один из наших "высокопоставленных" ветеранов, обращаясь к ветеранам двадцать пятой дивизии вермахта, назвал их просто: "товарищами... по совместной борьбе"(?)...

Трагична судьба нашего Отечества. От славы до унижения в ней один лишь шаг...

Впрочем, забудем.Главное — сделан еще один шаг навстречу друг другу. В обычаях наших не помнить зла...

## *Размышления о главном*

# Кто и с кем готов объединяться?.. И зачем!

События последних дней в России заставляют с особым вниманием взглянуть на противостояние, наметившееся в Верховном Совете нашей республики, а также между высшими должностными лицами Беларуси. Понять причины происходящего тем более важно в связи с подписанием в Москве соглашения о создании экономического союза в рамках СНГ.

Возьму на себя смелость сделать предположение, что это соглашение в нынешних обстоятельствах не получит горячего одобрения со стороны основной части депутатской группы "Беларусь" в Верховном Совете и политического "ядра" белорусского правительства.

Как известно, наш Верховный Совет, в свое время придерживавшийся прямо противоположного мнения, довольно дружно конституционным большинством провозгласил суверенитет Беларуси, а затем ратифицировал Беловежские соглашения. Случилось это после известных событий 1991 года: провала августовского путча, ареста членов ГКЧП и роспуска КПСС. Совет Министров республики не только не противостоял решениям Верховного Совета, но и принимал самое активное участие в их подготовке. Не исключено, что эти действия высших органов государственной власти и управления были продиктованы стремлением уберечь себя от "демократических сквозняков", ельцинских реформ и кадровой чистки, прихода которых из Москвы вполне обоснованно у нас ожидали. Но своевременно возведенный барьер из суверенитета сему воспрепятствовал.

Как видим, в то время суверенитет республики для стоящих у власти в Беларуси политических группировок стал "вещью" весьма необходимой и спасительной.

Следовало ожидать, что после ратификации договора о Содружестве Независимых Государств (СНГ) исполнительные структуры приступят к практической его реализации: будет создано единое таможенное пространство, согласованы кредитно-денежные отношения, внешнеэкономическая деятельность и внутриэкономические преобразования. Но этого не случилось. Более того, в одностороннем порядке нами были возведены таможенные барьеры, введены "зверушки", осуществлена огромная кредитная эмиссия и приторможены реформы.

Все это не ускользнуло от рыночного взгляда российской стороны, требовавшей не "поставлять" продукцию, а торговать ею, не "печатать" деньги, а зарабатывать их, не подавлять предприятия государственным контролем и налогами, а дать им необходимую свободу.

Однако мы продолжали идти своим "суверенным" путем, активно рекламируя внутри республики его якобы "нешоковое" воздействие на граждан.

Так продолжалось до тех пор, пока Верховный Совет России во главе с Хасбулатовым не начал открытую борьбу с правительством Б.Ельцина и гайдаровскими реформами. Именно к пикам этой борьбы, наблюдавшимся в марте—мае и в августе—сентябре, приурочены наиболее заметные "стратегические инициативы" политического "ядра" белорусского правительства и поддерживающего его депутатского объединения "Беларусь" в Верховном Совете.

Верховный Совет России одобрил значительную эмиссию рубля, тотальное кредитование промышленности и сельского хозяйства. Дефицит бюджета России мог бы достигнуть 40 процентов. Реформы приостановились. Государственное регулирование экономики выдвигалось в качестве основного приоритета. Все эти меры созвучны тем, что осуществляются в Беларуси сейчас.

Не случайно поэтому в республике стали крепнуть и активно пропагандироваться взгляды правящего политического большинства о необходимости тесной консолидации с Россией, вплоть до создания общего государства. Лозунг "суверенизации" с повестки дня снимался как выполнивший свою "защитную" роль. В новых условиях он становился препятствием для "позитивного" воздействия политики российского Верховного Совета на положение дел внутри Беларуси. Не исключено, что силы, группировавшиеся в России вокруг Р.Хасбулатова и А.Руцкого оценивались в стратегических расчетах правящего политического "ядра" Беларуси как объективно способствующие интеграции, а команда Б.Ельцина воспринималась как преследующая дезинтеграционные цели. Возможно, что в контексте этих стратегических расчетов как раз и были предприняты Конгресс народа Беларуси, визит депутатской группы "Беларусь" к Р.Хасбулатову и провозглашен курс на денонсацию Беловежских соглашений, "отмену" СНГ. В связи с чем удивительно скоординированными по времени, содержанию и направленности воспринимаются недавние политические заявления по этому поводу В.Кебича и Р.Хасбулатова.

Однако, как известно, ситуация в России коренным образом изменилась. Понятно, что в новых условиях интеграция с Российской Федерацией, с командой президента для депутатской группы "Беларусь" становится нежелательной. А после подписания экономического союза в рамках СНГ ситуация для нее оказывается и вовсе пикантной: придется ратифицировать то, основу чего предлагалось денонсировать!

В.Кебич назвал подписанное соглашение "декларативным". Такой оценки ранее заключенные им интеграционные соглашения не удостаивались.

Заключение экономического союза в нынешних условиях и обстоятельствах в определенной степени — успех подходов С.Шушкевича, добивавшегося сохранения СНГ и реализации на деле Беловежских соглашений.

Возможно, что случившееся заставит по-новому взглянуть и на соглашение об объединении денежных систем Беларуси и России.

В этом соглашении есть положения, идущие вразрез с политическими установками депутатского объединения "Беларусь" в Верховном Совете, если принять в расчет новую ситуацию в России и сохранение там политики рыночных реформ. В случае реализации этого соглашения учетная ставка по ссудам Национального банка должна возрасти у нас до уровня российской, т.е. в 1,5—2 раза, существенно уменьшится предельный размер кредитов на покрытие дефицита бюджета, сократится удельный объем кредитной эмиссии, величина которой будет определяться валютным вкладом Беларуси в совместный фонд стабилизации рубля. Однако общеизвестны возможности Беларуси в получении конвертируемой валюты. Не окажется ли так, что эмиссионная квота республики будет ничтожно мала и не позволит целевым образом кредитовать промышленность, сельское хозяйство и строительство жилья для населения? Готовы ли наши предприятия работать на российском уровне ставок по кредитам коммерческих банков? Все это — далеко не праздные вопросы. Не окажется ли так, что мы "пошли по шерсть, а вернулись стрижеными"? Хорошо, если именно таких жестких рыночных условий хозяйствования добивались наши руководители в Москве. Хуже, если они рассчитывали на нечто прямо противоположное. Об этом нужно говорить честно и открыто, чтобы вновь не плодить очередных иллюзий и последующих разочарований.

Могут спросить, к чему все эти рассуждения, не лучше ли мне писать о проблемах, находящихся в компетенции местных органов власти? Да дело в том, что Новополоцк, в силу специфики его промышленности, является прямым, непосредственным индикатором нашей внешнеэкономической деятельности. Возможно, это досадное совпадение, но всякий раз разговоры глав правительств в Москве об интеграции в итоге оборачивались перебоями в поставках нефти на переработку.

А это означает, что интеграция на уровне правительств, не подкрепленная интеграцией между субъектами хозяйствования, действительно не более чем декларация, претворение в жизнь которой объективно требует жесткого огосударствления экономики. Принципиально иной подход заключается в разгосударствлении и акционировании наших крупнейших предприятий, в первую очередь тех, что без кооперации с предприятиями стран СНГ существовать не могут. Необходимо всем нам усвоить достаточно простую истину: собственность граждан России на территории Беларуси не идет во вред нашей государственности, однако государственная собственность других держав у нас ставит на этот счет определенные вопросы.

Получается, что нет иного выхода из сложившейся ситуации, нежели движение по пути экономической реформы, цель которой, помимо всего прочего, — глубокая приватизация собственности. В этом смысле уместно вспомнить высказывание В.И.Ленина 1914 года о двух исторических тенденциях в национальном вопросе: "...первая: пробуждение национальной жизни и национальных движений, борьба против всякого национального гнета, создание национальных государств. Вторая: развитие и учащение всяческих сношений между нациями, ломка национальных перегородок, создание интернационального единства капитала, экономической жизни вообще, политики, науки и т.д." Правда, далее вождь добавлял, что "...обе эти тенденции суть мировой закон капитализма".

Обеспечить действие второй тенденции можно лишь созданием условий для свободного движения товаров и капиталов, целевого их перераспределения не на государственном уровне, а на уровне хозяйствующих субъектов, имеющих транснациональную организационную форму.

Безусловно, что для этого необходимо ликвидировать систему клиринговых расчетов и добиться свободного движения рубля (как и любой другой валюты) через счета предприятий в банках Беларуси. Введение национальной валюты при таком раскладе этому не помеха, а лишь дает больше возможностей в вопросах эмиссии и кредита, что немаловажно.

К сожалению, хотелось бы ошибиться, но, как показывает опыт, именно такую реальную интеграцию правительство и большинство Верховного Совета не готовы принять исходя из политических соображений. По крайней мере сегодня.

А для начала (заранее приношу извинения за некоторую назидательность) не последнее дело было бы приглушить антироссийскую кампанию на нашем государственном телевидении, которое позволяет себе из недели в неделю весьма непрофессионально освещать деятельность правительства и президента России, с трудом удерживаясь порою на грани приличия.

Советникам наших руководителей хорошо бы воздержаться от односторонних внешнеэкономических демаршей, а их политическому окружению — от восторженного общения с лидерами российской оппозиции.

Все это, а также "визит" "Беларуси" к Хасбулатову создает определенные сложности в белорусско-российских отношениях. В этом смысле "неприятности" от экзальтированных речей лидеров нашей оппозиции на театрализованных праздниках по поводу победы одного князя над другим представляются не большими, чем от художественной декламации на детском утреннике: оппозиция в Беларуси, если отдавать дань справедливости, не имеет возможности реально влиять на принятие решений. В ее действиях наше руководство видит источник всех бед, но это слишком простое объяснение!..

В завершение хотелось бы вспомнить строки из "Истинноверующего" Эрика Хоффера: "Когда старый режим начинает разваливаться, многих крикунов, которые дотоле молились о пришествии этого дня, охватывает паника"...

Не о нас ли всех вместе взятых это сказано?

**Александр НИЯКОВСКИЙ,**
**председатель Новополоцкого городского Совета народных депутатов.**

